Цана 15 гр. Przesyłka opłacona ryczałtem

# БЕЛАРУСКІ ФРОНТ

НЕЗАЛЕЖНЫ НАРОДНА-РАДЫКАЛЬНЫ ЧАСАПІС

РЭДАКЦЫЯ і АДМІНІСТРАЦЫЯ:
Вільня, Вострабрамская 2—11 (Wilno, Ostrobramska 2—11).
Адчынена ад 9 да 19 г.

Часапіс выходзіць раз у месяц

Выпіска: на год 2 зал.
на паўг. 1 зал.
на 3 м-цы 50 гр.

№ 6 | Вільня, 5-га кастрычніка 1936 г. | Год I.

## Беларускае паланафільства.

У прошлым нумары „Б. Фронту" мы разважалі вялікую і важную для беларускага народу праблему, датычачую ўсходняй ар'ентацыі беларусаў. У гэным артыкуле мы выказалі, што ўсходняя ар'ентацыя часткі беларускага народу не выдзержывае крытыкі ані ў сучаснасьці (на камуністычную Расею), ані ў будучыне (на дэмакратычную ці якую іншую Расею). Цяпер пераходзім да разгляду заходняй ар'ентацыі і ў першую чаргу пастараемся асьветліць ар'ентацыю беларусаў на Польшч.

Гэта ар'ентацыя, таксама як і ар'ентацыя на Расею, мае ўжо сваю гісторыю. Пачалося паланафільства тады, калі з аднаго боку бальшавікі разагналі Ўсебеларускі Кангрэс і потым усялякімі спосабамі прасьледавалі адраджэнскі беларускі рух, а з другога боку — калі марш. Пілсудскі прыступіў да рэалізацыі сваіх усходніх плянаў, г. зн. прыступіў да тварэньня „буфаровых" паміж Польшчай і Расеяй дзяржаў: Украіны і Беларусі. Тварэньне Украіны было нават аформлена дагаворам з Петлюрай, паводле якога Украіна на захад ад Збруча была прызнана незалежнай дзяржавай. Адносна Беларусі гэтакага акту ня было, але ў адозве марш. Пілсудскага да жыхароў д. В. Княства Літоўскага было сказана, што аб будучыне гэтых зямель пастановяць самі жыхары... Прыезд марш. Пілсудскага ў Менск (1919 г.) і гутаркі яго з беларускімі дзеячамі далі частцы бел. грамадзянства надзею, што пры помачы Польшчы зможа паўстаць аўтаномная а нават незалежная Беларусь. На гэтым становішчы стала г. зв. Найвышэйшая Рада, якая ўтварылася пасьля разламу ў Беларускай Радзе.

Якія былі мэты і імкненьні марш. Пілсудскага адносна Беларусі, мы добра ня ведаем, здаецца, што яны ня былі такімі далёкімі, як гэтага хацелі сябры Найвышэйшай Рады, аднак гістарычная аб'ектыўнасьць прымушае сьцьвердзіць існаваньне паланафільства пасярод вялікай часткі тагачаснай беларускай інтэлігенцыі.

Праўда, што гэтае паланафільства скора разьвеялася, як дым, і ад таго часу аж па сяньняшні дзень пасярод беларускага грамадзянства ня было і няма *аніводнай* групы, якая-б ар'ентавалася на Польшч. Калі мы кажам, што няма аніводнай групы, дык мы тут разумеем групу *ідэйную*, якая-б шукала ў Польшчы заспакаеньня не сваіх асабістых, але ідэйных імкненьняў у кірунку дабра Беларускага Народу і яго ідэалаў. Такой групы няма. Калі нам пакажуць на цэлы рад асоб, як на паланафілаў (Паўлюкевіч, Умястоўскі, Астроўскі, Луцкевіч), дык мы адкажам, што гэта ня былі і ня ёсьць ідэйныя паланафілы, а проста асобы або групы, якія ар'ентуюцца на Польшч дзеля сваіх асабістых інтарэсаў.

Значыць у сучаснасьці можам сьцьвердзіць *факт* адсутнасьці ідэйнай паланафільскай групы пасярод беларускага грамадзянства.

Але побач з гэтым мусім сьцьвердзіць і *другі факт*: адсутнасьць ідэйнай беларусафільскай групы пасярод польскага грамадзянства. Нават прыхільнікі і кандыдаты ў г. зв. „народны" фронт у Польшчы (ППС, людоўцы і інш.) не адносяцца прыхільна да беларускага пытаньня, як гэта мы ўжо выказвалі ў прошлых нумарох нашага часапісу. Ці гэта яны робяць па загаду камуністаў, ці з свайго палітычнага меркаваньня — гадаць ня будзем, сьцьвярджаем толькі факт поўнай нэгацыі беларускага пытаньня пасярод польскіх палітычных груп, пачынаючы ад правых і кончачы на левых.

Калі мы ўжо сьцьвердзілі адсутнасьць, ідэйнага паланафільства пасярод беларусаў, і калі сьцьвердзілі адсутнасьць ідэйнага беларусафільства пасярод палякаў, мы цяпер пастараемся выясьніць *прычыны* гэтых цікавых фактаў.

Прычын многа як з боку беларускага так і польскага. Пакажам тут на галоўныя, наскольні нам пазволяць цэнзурныя варункі. Падойдзем да справы рачова і аб'ектыўна.

З боку беларускага стаяць на перашкодзе да паланафільства яшчэ жывыя ў народзе ўспаміны аб даўнейшай паншчыне і яе крыўдах. Беларус здаўных прывык глядзець на паляка, як на пана; нават слова „пан" ён тасуе толькі да палякоў, чаго ня робіць адносна расейцаў, жыдоў і іншых. Гістарычная мінуўшчына выкапала паміж беларусамі і палякамі глыбокую пропасьць палітычнай і сацыяльнай няроўнасьці, паглыблянай апошнімі падзеямі. Польскія грамадзкія кругі ня толькі не стараюцца выкараніць гэтай няроўнасьці, але часта нават яе паглыбляюць. Гэтак робяць эндэцыя, кансэрватысты і іншыя. А б. прэзыдэнт Вайцехоўскі, будучы ў Віленшчыне, публічна заявіў, што Польскі народ ёсьць прыраджоным гаспадаром гэтага краю...

Апроч успомненай няроўнасьці, якая адчуваецца на кожным кроку, кідаецца ў вочы вялікая рожніца ў псыхіцы беларуса і паляка. Беларус ня можа зразумець польскай псыхікі, якая для яго выдаецца далёкай і лёгкападумнай. Беларус і паляк па сваей псыхіцы чуюцца чужымі. Гэта адчуваюць ня толькі сьведамыя беларусы, але і нясьведамыя, а нават „тутэйшыя" палякі, для каторых псыхіка „лехітаў" ёсьць настолькі чужою, што яны, абсэрвуючы сваю і арыгінальную польскую псыхіку, прыходзяць да ўсумненьня аб сваім польскім паходжаньні...

З польскага боку за найбольшую перашкоду да зразуменьня беларускіх народна-палітычных імкненьняў ёсьць старадаўная шляхоцкая псыхіка, якая загадывае ўважаць беларусаў за нешта ніжэйшае ад палякаў. Гэтая псыхіка, разьвітая творамі Сенкевіча (Ogniem i mieczem, Potop), якія страшэнна паглыбілі пропасьць паміж „сялянскай" псыхікай беларусаў і „шляхоцкай" палякаў, не дазваляе польскаму грамадзянству глянуць цьвяроза на беларусаў і ўкраінцаў. Польская моладзь, узгадаваная на Сенкевічу, яшчэ болей чым старэйшае польскае грамадзянства, адварочваецца ад зразуменьня беларускіх народных патрэб. Пры гэтым можна спасьцерагчы дзіўную праяву: калі пасярод старэйшага польскага грамадзянства яшчэ спатыкаюцца адзінкі, якія спачувалі або спачуваюць беларускаму народу, то пасярод маладзейшага пакаленьня мы і гэтага не спатыкаем. Маладое польскае пакаленьне ня хоча нават слухаць аб беларускім пытаньні ў Польшчы. Нават прыхільнікі „народнага" фронту не маглі дараваць газэце „Poprostu", што яна закранала часам беларускія справы.

Дык гістарычная, сацыяльная і палітычная няроўнасьць а такжа адменнасьць псыхікі ёсьць галоўнымі прычынамі тэй далёкасьці, якая цяпер спасьцерагаецца паміж польскім грамадзянствам і беларускім. Гэта ёсьць галоўныя і найглыбейшая нутраныя прычыны, з якіх выплываюць усе іншыя, аб каторых так часта гаворыцца ў беларускім грамадзянстве. Апроч гэтага вялікая частка польскага грамадзянства (эндэкі і кансэрватысты) выступае актыўна проціў беларусаў, ідучы да бязьлітаснай асыміляцыі (польшчаньня) беларускага народу, хочучы зрабіць з нашым сялянствам тое, што некалі іх продкі зрабілі з нашым баярствам.

Калі яшчэ далучым сюды зямельную справу (асадніцтва і калянізацыю), перашкоды адміністрацыйных і самаўрадавых уладаў у здабываньні беларускай школы, труднасьці ў закладаньні і акцыі бел. культурна-прасьветных арганізацыяў і шмат іншых прычын, аб якіх мы цяпер ня пішам, дык стане ясным, што ідэйнае паланафільства пасярод беларускага грамадзянства ёсьць немагчымым

## Сусьветны Мірны Кангрэс у Бруксэлі.

Ад 4 да 6 верасьня с. г. ў Бруксэлі (сталіцы Бэльгіі) адбыўся Сусьветны Мірны Кангрэс, прысьвечаны абароне міру ўва ўсім сьвеце, а наўперад у Эўропе. Ініцыятарамі склікаsuccessfulньня кангрэсу былі: лёрд Робэрт Сэсіль (Англія), Кот (франц. міністар земляробства) Эрыё (б. фран. прэм'ер), Кашэн (фран. камуніст), Швэрнік (СССР) і шмат іншых эўрапэйскіх палітыкаў. Стварылі яны яшчэ перад Кангрэсам Міжнародны Выканаўчы Камітэт, выдалі адозву ў справе Кангрэсу, падаючы ў ёй 4 тэзы як прынцыпы, каторыя могуць ратаваць мір, калі толькі паасобныя народы (ідэнтыфікаваныя з існуючымі дзяржавамі) захочуць гэтыя прынцыпы тасаваць у унутраной і вонкавай палітыцы. Тэзы гэтыя наступныя:

1) непарушальнасьць абавязкаў, выплываючых з трактатаў,

2) рэдукцыя і абмяжаваньне збраеньняў шляхам міжнароднага паразумленьня і зьменшаньне карысьцяў ваеннай прадукцыі для прадпрыемстваў,

3) узмацненьне Лігі Народаў дзеля папярэджаньня войнаў шляхам стварэньня агульнай арганізацыі ўзаемнай абароны і бясьпечнасьці,

4) стварэньне ў межах Лігі Народаў мэханізму, здольнага спыніць непаразумленьні, вядучыя да вайны.

Дзеля падгатаваўчае працы і выбараў дэлегатаў на Кангрэс у паасобных дзяржавах стварыліся Камітэты Абароны Міру, якія з свайго боку зьвярнуліся да сваіх народаў з заклікам адгукнуцца ў гэтай справе. Пачалася і прэсавая прапаганда Кангрэсу даволі разнабокая і галасістая. Практычна ўдзел шырэйшых масаў у падгатаваўчай акцыі кангрэсу адбываўся ў форме зборак розных арганізацыяў, на якіх прымаліся адпаведныя рэзалюцыі, перасыланыя наступна ў Камітэты Абароны Міру або зьліжаныя арганізацыі (як прыкл. Ліга Абароны правоў чалав. і грамадз.). Нават у Вільні выйшаў часапіс „W obronie pokoju", прысьвечаны справе Кангрэсу і міру.

Як мы сказалі, Кангрэс трываў тры дні. Прамоўцы разьвівалі пераважна пададзеныя вышэй тэзы як фундамэнты сусьветнага міру. Нарады прайшлі аднастайна і толькі выступленьне супольнай дэлегацыі арабска-жыдоўскай з Палестыны было свайго роду сэнсацыяй. Выслаў на Кангрэс свайго прадстаўніка і нэгус, шукаючы і тут абароны перад Італіяй, аднак безрэзультатна.

Скончыўся Кангрэс мітынгам, на якім прынята рэзалюцыя аб

пакліканьні да жыцьця пацыфістычнага інтэрнацыяналу з сусьветнай цэнтраляй, Генэральнай Радай. Інтэрнацыянал гэты будзе мець свайго прадстаўніка пры Лізе Народаў. Дзеля збору патрэбных грашовых сродкаў створаны адумысны „Фонд Міру“. Праца-ж у паасобных краёх мае палягаць на ладжаньні пацыфістычных канфэрэнцыяў, народных плебісцытаў на карысьць міру і ўрэшце збіраньне грошай на „Фонд Міру“.

Сочучы за працамі Кангрэсу і іх рэзультатамі трэба ўсё-ж сьцьвердзіць, што Кангрэс ня ўдаўся і ня выклікаў глыбейшага рэха. Канчаткавая рэзалюцыя, аб якой мы толькі што ўспомнілі — гэта хутчэй спосаб, каб ратаваць імя Кангрэсу, але не фундамэнт дзеля разьвіцьця шырокай акцыі на карысьць міру. Няўдача кангрэсу была відавочна ад самага пачатку, хоць мэта яго ў прынцыпе магла зьяднаць запраўды шырэйшыя кругі прыхільнікаў міру, ды і час на скліканьне Кангрэсу быў выбраны адпаведны (хоць бы таму, што ад сусьветнай вайны 1914-18 г. г. эўрапэйскі, а за ім і сусьветны мір, ніколі не знаходзіўся пад гэткай пагрозай, як сяньня). Калі аднак Кангрэс не апраўдаў ускладаных на яго надзеяў, дык на гэта злажыліся свае прычыны. Дзьве з іх асабліва заслугоўваюць на нашу ўвагу.

Першая прычына бярэць свой пачатак у тэй з чатырох паложаных у аснову працаў Кангрэсу тэзе, каторая кажа аб непарушальнасьці міжнародных трактатаў, пачынаючы, зразумела, ад Вэрсальскага. Тэза гэта астудзіла палкасьць да Кангрэсу ў тых народаў, каторыя чуюцца скрыўджанымі гэтымі трактатамі і так ці інакш імкнуцца да іх зьмены. Належаць сюды ня толькі тыя дзяржаўныя народы, каторыя ў рэзультаце сусьветнай вайны былі пераможаны і дорага заплацілі пераможцам, але і тыя, што ня маюць сваей дзяржаўнасьці, але незалежнасьць уважаюць за сваю вышэйшую народную мэту. Абарона трактатаў, каторыя санкцыёнуюць гэткі нездаваляючы іх стан, не магла выклікаць у іх энтузыязму да скліканага пад гэткім сьцягам Кангрэсу, ня гледзячы на ўсю павагу справы агульнага міру. Характэрна яшчэ і тое, што пачынальнікамі Кангрэсу, падпісаўшымі і першую адозву, былі якраз прадстаўнікі тых народаў, якія сусьветную вайну выйгралі (Францыя, Англія, Румынія, Чэхаславаччына, Бэльгія, Амэрыка). Высьнілася, што ня досыць кінуць лёзунг абароны міру, каб ужо ён знайшоў ўсюды спачуцьцё і жывы водгук нават у сучасных грозных умовах эўрапэйскага жыцьця і калі яшчэ ня згасьлі ўспаміны аб сусьветнай вайне. Аказалася, што лёзунг гэты трэба дапоўніць ідэяй *справядлівага* міру, які здаваляў-бы імкненьні ўсіх народаў.

Гэта прычына значна звузіла круг удзельнікаў Кангрэсу, абмяжоўваючы яго толькі да прыхільнікаў сучаснага палітычнага ладу Эўропы.

Другой прычынай малых рэзультатаў Кангрэсу, звузіўшай нават гэты круг, было лішне безцэрэмоніяльнае імкненьне камуністаў выкарыстаць Кангрэс дзеля сваіх мэтаў, далёка ня мірных. Ідзе аб тое, што сучасныя камуністычныя партыі ў Эўропе—гэта верныя праваднікі сталінаўскай палітыкі. Ужо ў падгатаваўчых працах да Кангрэсу камуністы стараліся ахварбаваць яго пасвоему. Работніцкія асяродкі, дзе наглядаўся ўплыў камуністаў, прыймалі рэзалюцыі, у якіх напр. казалася аб міры без фашыстаў і г. д. Ішло тут, зразумела, не аб прапаганду міру, а выключна аб праводжаньне маскоўскай палітыкі, што зьнеахвоціла шмат прыхільнікаў міру, варожых гэтай палітыцы, да дзейнага ўчасьця ў працах Кангрэсу.

Гэткім парадкам шырака закрэсьленая і даволі гучна рэклямаваная пацыфістычная акцыя ўжо ў сваіх пачатках мела вялікія недахопы, каторыя перашкодзілі ён стацца запраўды „сусьветнай“. Не памагла тут і падсоўваная сьцішка камуністамі праблема міжнароднай салідарнасьці работніцкіх масаў, як неофіцыяльная пляцформа працаў Кангрэсу, маючая злагодзіць вострасьць пастуляту абароны трактатаў, перш дзеля таго, што гэта салідарнасьць тут ня выявілася, а па другое— яснай пастаноўцы гэтай праблемы перашкаджала палітыка народных фронтаў, гуртуючых такжа і элемэнты дробнамяшчанскія, якой камуністы пакуль што трымаюцца.

У кожным прыпадку, ня гледзячы на рэзультаты Кангрэсу, сама ініцыятыва абароны міру заслугоўвае на дадатняе адношаньне. Глыбейшыя-ж карані пацыфістычная акцыя зможа пусьціць толькі тады, калі ясна і катэгорычна прызнае права на самастойнае жыцьцё кожнага народу.

*М. Ш.*

# Актуальная справа.

*(Да будовы ў Вільні „Беларускага Дому“).*

Нармальнае жыцьцё народу патрабуе раўналежнага разьвіцьця палітыкі, культуры і эканомікі. Асабліва цесна лучыцца культурнае жыцьцё з эканамічным. Палітыка можа часам апярэдзіць гэтыя дзьве галіны і нават расьці іхнім коштам, аднак гэта было-б зьявішчам ненармальным і грамадзянства, дзе яно наглядаецца, ёсьць падобным да цягніка, ад якога адарвалася лякаматыва і паляцела дзесь наперад, а вагоны плятуцца ззаду, пакуль зусім не затрымаюцца. Да некаторай ступені гэтае зьявішча можна спасьцерагчы ў беларускім жыцьці. Палітыка наша пайшла далёка наперад, культурнае жыцьцё ледзь дыша, а на экамоміку не зьвяртаецца амаль ніякай увагі. Зразумела, што палепшаньне агульнага эканамічнага палажэньня беларускіх масаў у сучасных умовах не ляжыць у магчымасьцях беларускага грамадзянства, аднак гэты не азначае, што ўласнымі сіламі мы ўжо нічога зрабіць ня можам. Ёсьць жа і гэткія патрэбы, здаволіць каторых павінна толькі беларускае грамадзянства, бо гэтага вымагае яго нацыянальны гонар. З гэтых патрэбаў спынімся тут над аднэй, якая заўсёды была актуальнай, а сяньня ёсьць проста палючай. Маем на мэце будоўлю ўласнага беларускага дому ў Вільні.

Дзеля чаго гэты дом патрэбны?

Беларускае грамадзянства мае свае навуковая зборы, рупіцца аб якіх павінна само бяз розьніцы палітычных пераконаньняў. Трэба такжа зрабіць магчымым карыстаньне з гэтых збораў усяму беларускаму грамадзянству. Прыкладам пры Бел. Нав. Т-ве ёсьць Музэй ім. Івана Луцкевіча, ведамы нават заграніцай і бібліятэка, маючая даволі багаты кнігазбор, асабліва з беларусаведы, мноства старых дакумэнтаў нашай мінуўшчыны. Але ў якім-жа памешканьні гэтыя зборы знаходзяцца? Яно малое, вільготнае, не сваё і выключае ня толькі рацыянальнае карыстаньне, але пагражае існаваньню збораў наагул. Асабліва ў кепскіх умовах знаходзіцца кнігазбор: там усё звалена ў двух вільготных невялікіх пакоіках, без сьвятла. Ці магчымы там агулам якісь парадак, вымаганы ад культурна пастаўленай бібліятэкі? А тымчасам у адпаведным памешканьні і пры невялікай салі пад чытальню, гэты кнігазбор даў-бы фундамант беларускай бібліятэцы ў Вільні. Іншыя кнігазборы ня ў лепшых умовах.

А наша тэатральнае жыцьцё? Ці-ж ня ёсьць агульна ведамым, што адзінай прычынай, чаму вось ужо паўтара году ня маем у Вільні ані воднага беларускага прадстаўленьня, зьяўляецца адсутнасьць уласнай салі? Апошнія беларускія прадстаўленьні ў салі музычнай кансэрваторыі наглядна выявілі, што беларускае грамадзянства адчувае патрэбу свайго тэатру. Сілаў таксама стае. Не стае толькі салі, якая адначасна служыла-б і для рэфэратаў, культурных зборак, канцэртаў і г. д.

Патрэба мець свой будынак, які адпавядаў-бы прынамся паказаным мэтам, зьяўляецца бязумоўна агульна-беларускай патрэбай.

Ці магчыма яе зьдзейсьніць?

На гэта адказ можа быць толькі пазытыўны. Падлічаючы матэрыяльныя магчымасьці беларускага грамадзянства, хоць беднага і расьцярушанага, трэба сьцьвердзіць, што сродкі на будоўлю яно даць зможа. Трэба толькі добрай волі і паважнага падыходу да справы. Усялякія палітычныя і асабістыя мяркаваньні павінны быць тут адкінены. З падзелам беларускіх навуковых збораў і культурнага жыцьця на „сфэры ўплываў“ тых ці іншых палітычных групаў, трэба такжа скончыць, бо „сфэра ўплываў“ можа быць тут толькі адна—беларускага незалежнага грамадзянства.

Калі ідзе ізноў-жа аб праўную форму, якая-б у сучасных умовах дазваляла найлепш зьдзейсьніць будоўлю дому, дык і тут справа ёсьць яснай. Гэткай формай арганізацыйнай можа быць найлепш

# Стаханаўшчына.

30-га верасьня сёлета ў Саветах абходзілі гадаўшчыну руху, які агульна завецца „стаханаўскім“. Дзеля таго, што рух гэты мае вялікае значэньне для працоўных, прысьвяцім яму трохі ўвагі.

У Саветах стаханаўскі рух — гэта мае быць апошняе слова сацыялістычнага будаўніцтва. Запачаткаваў яго работнік-шахцёр Донбасу (Данецкага басэйну) Стаханов, каторы сілай сваіх мускулаў павысіў выдайнасьць працы ў шахтах і давёў яе да нялюдзкае проста вышыні. Ад гэтага і пачаўся „стаханаўскі“ рух. Цяпер няма дня, каб праз камуністычную прэсу і праз радыё не заахвочваліся работнікі да „ўключэньня“ ў стаханаўскі рух. Па ўсяму Савецкаму Саюзу ня толькі заахвочваюць працоўных да „стаханаўшчыны“, але робіцца зусім выразны націск на работнікаў, савецкіх урадаўцаў і калгасных сялян, каб натужвалі ўсе свае сілы ў кірунку павышэньня выдайнасьці сваей працы.

Заахвочаныя такім парадкам работнікі і сяляне навыперадкі адзін перад другім стараюцца пабіць рэкорд у працы і некаторыя сапраўды робяць „цуды“. Насколькі „стаханаўшчына“ ў Саветах перайшла ў нязвычайныя формы, можам праканацца з наступных прыкладаў: 29 красавіка праз менскую радыёстанцыю перадавалі, што адзін калгасьнік, карыстаючыся машынай, у адзін дзень засеяў 47 гэктараў! Другі ў працягу аднаго дня зараў конным плугам 1,8 гэктара!

Камуністычная прэса і радыё сыстэматычна выхваляе тых герояў-стаханаўцаў, якія за бязупынную працу ў працягу месяца зарабілі па некалькі сот рублёў, або атрымалі прэмію ў форме ботаў, паліта ці нікелёванага ложка. Гэтак ўпарта і сыстэматычна праводзіцца „стаханаўшчына“, як апошняе слова сацыялістычнага будаўніцтва!

На гэты рух, якім так захоплены камуністы, мы маем свой асобны пагляд і ўважаем стаханаўшчыну за новую форму эксплёатацыі чалавечай працы. Хто меў дачыненьня з працаю на ральлі, той ведае, што гэта значыць заараць у працягу дня звычайным конным плугам блізу 2 гэктары зямлі! Або як мусіў працаваць гэны калгасьнік, каторы засеяў 47 гэктараў!... Нават праз радыё падавалі, што ён ня меў часу ня толькі на адпачынак, але ня злазіў у працягу дня з машыны...

Найгорш тое, што стаханаўшчына ў Саветах не зьяўляецца нейкім дабравольным спортам, але пастунова ператвараецца ў сыстэму, якая ўводзіцца прымусам. Камуністычная партыя, прафэсыянальныя саюзы, прэса і ўвесь савецкі апарат па загаду вярхоўнага павадыра Сталіна робяць выразны націск на работнікаў, каб пераймалі стаханаўскія мэтады. Дык стаханаўцамі стараюцца быць усе, хто хоча здабыць добрую марку ў камуністычнай улады. А калі нехта ня хоча ісьці на выперадкі ў працы (спаборніцтва), той можа апынуцца зусім без працы, бо такога камуністычныя ўлады ўважаюць за чалавека няпэўнага і падазронага.

Але паўстае пытаньне: што рабіць тым работнікам, якія ня маюць столькі фізычных сілаў, каб працаваць па 15-18 гадзін у дзень без адпачынку? Ці для іх пры разьвіцьці стаханаўшчыны знойдзецца месца ў Саветах?

Усе эканамісты, а магчыма нават і савецкія, дасканальна ўяўляюць сабе, што з пункту гледжаньня фізыёлёгічнага стаханаўшчыну трэба прызнаць шкоднаю для людзкога здароўя. Бо пры гэтакіх сапраўды нялюдзкіх натугах непамерна скора надрываюцца сілы працаўнікоў, а пры далейшым агульным гасаваньні стаханаўшчыны гэта адаб'ецца і на ўсей народнай гаспадарцы.

Дапусьцім аднак, што людзкі матар'ял у савецкіх абставінах, так як і ўсюды, ў рахунак не бярэцца, дык застаецца яшчэ жывы інвэнтар, напрыклад коні, якія пасьля гэтакіх шалёных тэмпаў працы, абавязкава перахварэюць, калі не станецца з імі чаго горшага.

З усяго відаць, што заводжаньне стаханаўшчыны мае яшчэ іншыя мэты, не гаспадарчыя. Камуністычнай уладзе ідзе ня толькі аб павышэньні выдайнасьці працы, але і аб стварэньні пасярод работніцтва псыхозы як найбольшых заработкаў. Кінуты Сталіным кліч узбагачэньня якраз можа знайсьці афармленьне ў стаханаўшчыне, каторая засьляпляе вочы савецкаму работніку і не дае яму магчымасьці прыгледзецца да тых абставін працы, у якіх ён апынуўся. Камуністычныя павадыры пашыраюць стаханаўшчыну, каб ператварыць сваіх работнікаў у жывыя машыны, якія толькі і думалі-б аб тым, каб выгнаць найболей пунктаў у працы і атрымаць за гэтае прэмію і тытул стаханаўскага ўдарніка. А дзе культурныя патрэбы, а дзе адпачынак? На наш пагляд стаханаўшчына хоць і прыносіць вялікую карысьць савецкаму будаўніцтву, то будаўнікам яго, работнікам, прыносіць вялікую фізычную і маральную шкоду. Работніцкія кругі аб гэтым павінны ведаць.

Пры канцы зьвернем увагу яшчэ на адну рэч. Усім ведама, што камуністы ва ўсіх некамуністычных дзяржавах агітуюць за найкарацейшы рабочы дзень (6-7 гадзін), але ў сябе яны стаяць за найдаўжэйшы дзень, за такі, які нават у найболей буржуазных краінах забаронены кодэксам карным! Ці гэта ёсьць справядлівым адносна пралетарыяту? Мы праканаваны, што гэта ёсьць несправядлівым і дзеля гэтага ўважаем стаханаўшчыну вялікім вызыскам працоўных мас на карысьць дзяржаўнага капіталізму.

*А. В.*

будаўляны каапэратыў. Агулам трэба зацеміць, што каапэратыўная форма працы на беларускай эканамічнай ніве ёсьць найлепшай. Пацьвярджае гэта і прыклад украінцаў, якія знаходзяцца ў вельмі зьліжаных да нашых умовах жыцьця. Украінскія каапэратывы сяньня—гэта магутная эканамічная базе, дазваляючая ім шырака паставіць культурнае жыцьцё. Кажучы аб будаўляным каапэратыве, як найлепшай форме, не трэба забывацца, што сябрам яго можа быць асоба, каторая ўнясе пай. Шмат хто аднак не зможа даць поўнага паю, але захоча спрычыніцца да будовы невялікім даткам. Трэба даць ім магчымасьць зрабіць гэта ў форме ахвяраў, або пазыкаў. Гэткім парадкам у агульнай справе прымуць удзел як найшырэйшыя масы грамадзянства. Круг іх яшчэ больш павялічыцца, калі асобам, што зусім ня могуць памагчы грашыма, дазволіць улажыць уласную працу.

Вяртаючыся да каапэратыўнай формы, трэба зацеміць яшчэ адзін дадатны бок, паімення, што каапэратыў ня будуецца на прынцыпе ахвярнасьці. Паі і іхні, скажам, зварот гварантуюцца маемасьцю, а сам будынак, адпавядаючы гэткім мэтам, як вышэйпададзеныя, усё-ж будзе даваць даход, асабліва саля.

У беларускай прэсе ўжо зьявіліся зацемкі аб паўстаньні ў Вільні арганізацыйнай групы Бел. Будаўл. Каапэратыву. Зьявішча гэта трэба толькі прывітаць. Перашкоды, якія ён можа спаткаць у сваей дзейнасьці, страшныя толькі пры разьбіцьці нашага грамадзянства, пры яго-ж супольнай акцыі будуць лёгка пераможаны. А хіба што ня знойдзецца беларус, каторы не адчуваў-бы патрэбы свайго будынку, які служыў-бы гэткім бяспрэчна агульным беларускім мэтам. Трэба затым спадзявацца, што беларускае грамадзянства якнайшырэй адгукнецца на факт паўстаньня Бел. Будаўлянага Каапэратыву.

*Ш.*

# На беларускім грунце.

*(Агляд беларускага жыцьця).*

**Рэзалюцыя Прэзыдыюму Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Вільні.**

Прэзыдыюм Беларускага Нацыянальнага Камітэту, на сваім паседжаньні дня 6 верасьня 1936 г. разгледзеўшы сучаснае народна-асьветнае палажэньне Беларускага Народу ў граніцах Польскае дзяржавы, сьцьвярджае, што:

1. Пачаткавае навучаньне беларускіх дзяцей у польскіх дзяржаўных школах, апрача 69 школаў, у якіх, паводле слоў Віленскага Школьнага Куратара „беларускі язык узяты пад увагу“, адбываецца папольску;

бацькі і апякуны беларусы для сваіх дзяцей дамагаюцца пачаткавага навучаньня ў роднай мове, падпісываючы дэклярацыі за беларускую школу;

2. адзіная ў Краі Беларуская Філія дзяржаўнай гімназіі ім. Ю. Славацкага ў Вільні не здаваляе патрэбы Беларусаў у школьніцтве сярэднім;

3. у галіне зашкольнай асьветы, якую праводзяць беларускія культурна-асьветныя арганізацыі заўважваецца ўстрыманьне шырэйшай асьветнай працы;

беларускія народныя масы, кіруючыся чуцьцём сваей народнай асаблівасьці, любоўю да роднай мовы і культуры, ахвотна горнуцца да самаадукацыі ў роднай мове — чытаюць беларускія кніжкі, газэты, журналы, а дзяцей вучаць пабеларуску хатнім спосабам.

Сьцьвярджаючы вышэйсказанае, Прэз. Бел. Нац. К-ту заклікае ўсё сьведамае беларускае грамадзянства і беларускія арганізацыі ўзмоцніць працу дзеля падняцьця народнай асьветы ўсімі законнымі спосабамі, паймення:

1. Дзеля пачаткавага навучаньня дзяцей у школах у роднай мове падаваць школьным уладам дэклярацыі за беларускую школу;

2. у справе сярэдняга школьніцтва прадстаўляць адносным уладам Польскай дзяржавы патрэбы гэтага школьніцтва ў адпаведнай колькасьці і разьмяшчэньні;

3. у галіне зашкольнай асьветы наладзіць фаховую помач і кіраўніцтва ў самаадукацыі шырокіх бел. народных масаў.

У праводжаньні гэтай акцыі падняцьця народнай асьветы, дзеля зьберажэньня ад расьцярушанасьці інтэлектуальных сілаў, Прэзыдыюм Бел. Нац. К-ту заклікае беларускія арганізацыі і агулам беларускую інтэлігенцыю да супольнай аб'яднанай працы.

*Прэзыдыюм Беларускага Нацыянальнага Камітэту*

(—) *Інж. А. Клімовіч* Старшыня

(—) *Інж. Л. Дубейкаўскі* I-шы Віцэ-Старшыня

(—) *Мгр. М. Шкялёнак* II-гі Віце-Старшыня

(—) *Др. Ст. Грынкевіч* Скарбнік

(—) *Я. Пазьняк* Сакратар.

**За асьвету ў роднай мове!**

Падаючы вышэй рэзалюцыю Бел. Нац. Камітэту ў Вільні ў справе школьнай і зашкольнай асьветы мы заклікаем усё беларускае грамадзянства натужыць усе сілы дзеля здабыцьця роднай беларускай школы. Галоўная рэч цяпер: *не зражацца рознымі перашкодамі і не падаць духам.* Да нас даходзяць весткі з правінцыі, што мясцамі, пад напорам беларускага ўсьведамленьня і жаданьня роднай школы, перашкоды ўступаюць. Мясцамі нават дэклярацыі ўжо сьцьверджаны і паданы школьным уладам (у Вялейскім і Баранавіцкім паветах).

Баранавіцкі стараста, будучы ў в. Крывошыне і гаворачы там з людзьмі ў школьнай справе, заявіў, што калі робяцца нейкія ўтрудненьні пры складаньні дэкляарацыяў, дык гэта дзеля таго, каб пераканацца, ці гэта самі людзі жадаюць беларускіх школ, ці толькі складаюць дэкляарацыі пад націскам (przemocą) агітатараў і дадаў, што ён прakananы, што насельніцтва агулам само па сабе беларускіх школ не дамагалася.б... Пры гэтым пагразіў усялякімі карамі за агітацыю на складаньне і за раздаваньне дэкляарацыяў і сказаў, што хто хоча беларускай школы, той сам павінен для сябе і выпісаць дэкляарацыю...

Ня будзем тут крытыкаваць слоў пана старасты, адзначым толькі, што нідзе законам не забаронена раздаваць дэкляарацыі і агітаваць за беларускую школу. А калі п. стараста сумневаецца ў тым, ці беларусы самі хочуць беларускай школы, ці толькі дамагаюцца яе пад напорам агітатараў, дык радзім яму саткнуцца шчыра з насельніцтвам свайго павету і, забыўшыся аб сваей старастаўскай павазе, распытацца аб жаданьнях гэтага насельніцтва... Тады сумніваў ніякіх ня будзе. А для нас, беларусаў, гэта навука, як цьвёрда і настойліва мы павінны дамагацца сваіх правоў!

Але апроч школьнай асьветы мы павінны дамагацца і зашкольнай. Зашкольную асьвету павінны праводзіць нашы культурна-прасьветныя арганізацыі, але як іх дзейнасьць цяпер спыняецца, дык за гэту справу павінны ўзяцца самі бацькі і апякуны дзяцей. Але як? Вось-жа тут трэба сарганізаваць хатняе навучаньне. Няхай вучаць сваіх дзяцей самі бацькі або нехта з хатніх, а калі няма ў хаце нікога граматнага, то можна зьбіраць дзяцей у камплекты, пасылаючы іх у тую хату, дзе ёсьць граматны чалавек. Такія камплекты ня могуць складацца болей, як з 8 дзяцей, бо калі будзе болей, то такі камплект можа быць палічаны за школу.

Такім парадкам хатняе навучаньне можа прынесьці вялікую карысьць і дапоўніць або і замяніць школьнае навучаньне.

Падручнікі да хатняга навучаньня: „Першыя зерняткі“ С. Паўловіча (Лемантар і першая чытанка) і „Пішы самадзейна“ гэтага-ж аўтара, якія можна па таннай цане выпісаць з кожнай бел. кнігарні.

**Перашкоды і труднасьці**

Летам сёлета была выслана Косаўскаму старасьце заява аб заснаваньні ў в. Сенкавічах гуртка Бел. Інстытуту Гасп. і Культуры. Пасьля атрыманьня заявы старства выклікала закладчыкаў да сябе і пачало допыты. Спачатку дапытвалі ў рэфэраце бясьпечнасьці, а потым у паветавай паліцыі, а потым адпусьцілі. Рэзультат допытаў быў такі, што закладчыкі ад закладзін гуртка адказаліся.

На 20 верасьня Мядзьведзіцкі гурток БІГ і К ладзіў тэатральнае прадстаўленьне, але Баранавіцкае старства не дало дазволу „z uwagi na spokój, porządek i bezpieczeństwo publiczne“.

Дзеля гэтага як іранічна выглядаюць словы „Spraw Narodowościowych“ (№ 1—2, 1935 г.), што Цэнтраля Інстытуту не перастае старацца, каб ажывіць дзейнасьць правінцыянальных гурткоў, але гэта ёй не ўдаецца дзеля пасыўнасьці беларускіх мас...

**Страшаць Картуз-Бярозай.**

У сярэдзіне верасьня быў прыехаўшы ў Вільню павадыр Беларускіх Нацыянал-Сацыялістаў Фабіян Акінчыц. Як ведама, гэта партыя рашуча выступае процiў савецкай марксаўскай ідэолёгіі і здавалася, што павадыра партыі не спаткае ніякая прыкрасьць з боку польскіх адміністрацыйных уладаў. Аднак сталася інакш. Стаўпецкі стараста заклікаў Ф. Акінчыца і паставіў яму такі варунак: або Ф. Акінчыц дасьць пісьменнае забавязаньне, што не будзе займацца палітычна - грамадзкай працай да публіцыстыкі ўключна, або будзе высланы ў Картуз-Бярозу... Прыгэтым стараста заявіў, што ён паступае па загаду вышэйшых уладаў. Стараста даў грам. Акінчыцу часу да 15 верасьня на ўпарадкаваньне асабістых і грамадзкіх спраў. Ф. Акінчыц падаў рэкурс у Міністэрства Унутр. Спраў. Які рэзультат гэтага рэкурсу — пакуль што няведама.

**Зачыненьне „Нашай Волі“.**

Газэта „Наша Воля“, якая пачала выходзіць пры канцы мінулага году, зачынена пастановай Віл. Акружнога Суду.

**Звальненьне Р. Астроўскага.**

Дырэктар Бел. Гімназіі ў Вільні, Р. Астроўскі, процiў якога ўсё беларускае грамадзянства мела вялікія засьцярогі, звольнены з пасады дырэктара Бел. гімназіі і перанесены на становішча вучыцеля ў Лодзь, у польскую гімназію. Абавязкі дырэктара Бел. гімназіі спаўняе грам. Анцукевіч, вучыцель лацінскае мовы ў тэй-жа гімназіі.

# На міжнародным грунце.

*(Агляд міжнароднай палітыкі за месяц верасень).*

**Дзяржавы ўваружаюцца...**

Усе дзяржавы заяўляюць, што хочуць міру, аднак гатовяцца да вайны. Найбольш уваружаюцца тыя дзяржавы, якія стаяць на чале гэных двух блёкаў, аб якіх мы пісалі ў прошлым нумары, а імення: Саветы і Францыя з аднаго боку, а Нямеччына і Італія—з другога. За імі ўваружаюцца Англія, Японія і ўсе меншыя дзяржавы. Вайсковыя бюджэты бадай усіх дзяржаў аграмадны; даволі сказаць, што Нямеччына ў працягу трох апошніх гадоў выдала на ўваружэньне 18 мільярдаў марак, а Саветы ў адным толькі бягучым годзе асыгнавалі на гэткія-ж тэмы 15 мільярдаў рублёў, Францыя ў гэтым годзе дадаткова асыгнавала 3 мільярды франкаў... Гэтак сама і ўсе іншыя дзяржавы не шкадуюць грашэй на ўваружэньне. А кожны ведае, што гэтакія аграмадныя сумы выдаюцца не на забаўкі, а на аэрапляны, танкі, бранявікі, газы і іншыя прылады будучай вайны. Прыгэтым трэба адзначыць і тое зьявішча, што ўваружэньні адбываюцца ў штораз скарэйшым тэмпе, вынаходзяцца што раз новыя спосабы вайны, прычым асаблівую ўвагу зварочваюць на мотарызацыю арміі, г. зн. на замену жывой, чалавечай або коннай сілы, мотарамі, якія, упраўленыя ў самаходы, змогуць у адзін дзень перакінуць цэлую армію на сотні кілёмэтраў... У Саветах пры апошніх манэўрах рабілі спробы перакідаць пры помачы аэрапляна ў цэлыя палкі ў тылы „варожых“ войск і быццам спробы выпалі зусім здаваляюча. Гэта робіцца такім парадкам, што калі ўжо аэрапляны з салдатамі знаходзяцца ў тылах праціўніка, салдаты спускаюцца ўніз пры помачы спускалётаў (вялікіх зонтаў), і там, у тылах праціўніка, сеюць паніку...

Апроч тэхнікі дзяржавы зварочваюць ўвагу і на чалавечы матар'ял, на яго колькасьць і якасьць. Саветы пачалі браць у войска ад 19 гадоў, так што іх армія даходзіць у спакойным часе да 2 мільёнаў, Нямеччына ўвяла двухгадовую вайсковую службу, падвойваючы сваю армію і даводзячы гэтакім парадкам яе ўжо ў гэтым годзе да 36 поўных дывізыяў, лічачых болей 1 мільёна чалавек. Кожны ведае, што пры агульнай мабілізацыі гэтыя мільёны ўзрастуць у некалькі разоў. І так Мусоліні ў аднэй з сваіх прамоваў заявіў, што Італія на выпадак вайны зможа змабілізаваць 8 мільёнаў чалавек! Як бачым, на сьвеце ад ваеннай гарачкі робіцца горача...

**Яднаньне саюзьнікаў.**

Два блёкі дзяржаў ня толькі ўваружаюцца, але і мабілізуюць новых саюзьнікаў, дык на міжнародным рынку ідзе торг рознымі спосабамі: мірнымі перагаворамі, грашмі, а нават рэвалюцыямі. Аб гішпанскай рэвалюцыі мы чулі, аб ёй яшчэ будзем пісаць, як аб вялікім эўрапэйскім зьявішчы. Для ілюстрацыі, як вялікія дзяржавы здабываюць новых саюзьнікаў, возьмем Грэцыю. Там яшчэ ў жніўні г.г. адбылася рэвалюцыя, якая здэцыдавала аб палітычнай ар'ентацыі гэтага краю. Справа ў тым, што Грэцыя пасьля апошніх выбараў ар'ентавалася на Францыю і Саветы. Да ўлады рваўся тамака „народны“ фронт, утвораны з камуністаў і франкафільскіх лібэралаў (вэнізэлістаў). Яны, злучыўшыся разам, захапілі ўсе мясцы ў прэзыдыюме парлямэнту і пачуўшыся на сілах, абвесьцілі агульны страйк з мэтай захапленьня ўлады. У адказ на гэтае вайсковыя кругі абвесьцілі ваенны стан ва ўсім краі, распусьцілі парлямэнт, арыштавалі камуністычных і некаторых лібэральных паслоў, здушылі страйк і ў рэзультаце зрабілі нацыяналістычны, або як цяпер завуць, фашыстоўскі пераварот... На чале ўраду стаў ген. Матаксас, які апіраецца на вайсковыя кругі. Але найважней тое, што Грэцыя, якая дагэтуль была пад уплывам Францыі і Англіі, зьмяніла сваю палітыку і пачала ар'ентавацца на Нямеччыну і Іта-

лію... У гэтай зьмене ар'ентацыі і ляжыць усё значэньне грэцкай „рэвалюцыі". Замест францускіх міністраў у Грэцыю езьдзіў нямецкі міністар прапаганды Гэбэльс...

Мірнымі перагаворамі здабываюцца іншыя дзяржавы, а ў тым ліку і Польшч. Як мы ўжо пісалі, зараз пасьля прыезду ген. Гамэлена ў Польшч яго рэвізытаваў ген. Рыдз-Сьмігłы, каторага прымалі ў Францыі, вельмі пышна, як манарха. Дзівіла толькі палітыкаў, чаму гэта з ген. Рыдз-Сьміглым не паехаў у Францыю міністар загр. спраў Бэк, які пад кіраўніцтвам марш. Пілсудскага вапачаткаваў нямецкую ар'ентацыю польскай палітыкі. Гэта насунула некаторым думкі, што ўнутры польскага ўраду ёсьць разбежнасьці ў паглядах на заграцічную палітыку. Але гэтыя сумнівы разьвеяліся зараз пасьля павароту ген. Рыдз-Сьміглага ў Варшаву, дзе яго спаткаў міністар Бэк з усьмешкай на вуснах. У газэтах была зьмешчана фатаграфія гэтых двух польскіх палітыкаў, якія ветла сьмяяліся да сябе. Гэта сьведчыла, што падарожа ген. Рыдз-Сьміглага была палітыкай ўсяго польскага ўраду і што яна ўдалася цалком...

Якія-ж рэзультаты гэтай падарожы?

Наўперад рэвалёрызацыя (аднаўленьне) француска-польскага саюзу, які быў захістаўшыся пасьля падпісаньня пакту ненападаньня з Нямеччынай. Была так-жа абгаворана справа тэхнічнай помачы на выпадак ваеннага закалоту, а галоўнае — была прызнана Польшчы пазычка ў суме 3 мільярдаў франкаў на уваружэньне і па правядзеньне інвэстыцыйнага пляну, на каторы Польшчы трэба 1.800 міл. злотых. Часьць гэтай пазычкі французы мелі даць ваенным матар'ялам, а часьць грашмі. Каб зрэалізаваць гэтую пазычку, прыежджаў у Варшаву фран. міністар Бастід, але ўжо у самых пачатках канкрэтных перагавораў выявіліся розныя труднасьці. Мін. Бастід інтарасаваўся вельмі францускім капіталам, які быў уложаны ў польскія прадпрыемствы, асабліва у варшаўскую электроўню і жырардаўскую ільняную фабрыку... Потым прыйшоў спадак франка і ў рэзультаце польскія дэлегаты, якія меліся выехаць у Францыю на пачатку кастрычніка, устрыманы. Віленскае „Słowo", якое стаіць за польска-нямецка-францускае паразуменьне, пісала, што француская помач заўсёды каштуе вельмі дорага. Адчулі гэта ўсе саюзьнікі Францыі...

Пасьля павароту ген. Рыдз-Сьміглага з Францыі нейкім трафам здарылася, што павадыр фран. камуністычнай партыі Торэс меў спатканьне ў Варшаве з сакратаром Камінтэрну Мануільскім. Гэты выпадак зьвярнуў увагу палітычных кругоў, аднак, здаецца, ён ня меў большага значэньня. Польскія ўлады ўнутры дзяржавы не ператалі змагацца з камунізмам.

### Гішпанская рэвалюцыя.

Ужо трэці месяц ідзе крывавае змаганьне ў Гішпаніі паміж „народным фронтам" і нацыяналістамі. Нацыяналісты перамагаюць і памалу здабываюць цазыцыі і гарады „народнага" фронту. І так — пасьля крывавага бою быў здабыты горад Ірун, які ляжыць на граніцы з Францыяй і мае вялізарнае стратэгічнае значэньне, бо ён злучаў гішпанскі „народны" фронт з францускім.

Праз Ірун ішла помач з Францыі для мадрыцкага ўраду. Пасьля ўзяцьця Іруну, нацыяналісты павялі наступ на Мадрыт і ўзялі горад Толедо, дзе ў старым замчышчы, Альказары, геройска бараніліся праз 70 дзён паўстанцы. Можна мець засьцярогі адносна палітыкі гішпанскіх нацыяналістаў (непрызнаваньне аўтаноміі Каталёніі і Баскіі), але трэба прызнаць, што паўстаўшыя нацыяналісты б'юцца добра. Возьмем хаця-б Альказар. Там замкнуліся 1.200 паўстанцаў, у большасьці гадунцы тамашняй вайсковай акадэміі і праз 70 дзён адбівалі ўсе наступы войскаў „народнага" фронту. Адчувалі яны нястачу вады і ежы, паелі бадай усе коні, перанесьлі бамбардаваньне з цяжкой артылерыі, але не здаваліся. Тады сапэры „народнага" фронту падвялі пад замчышча міну і часьць яго ўзарвалі ў паветра, але і гэта не прымусіла паўстанцаў да капітуляцыі. На руінах і пад руінамі яны змагаліся далей, чым выклікалі зьдзіўленьне ўсяго сьвету, а бразылійскі парлямант нават ушанаваў іх памяць мінутай маўчаньня. Абарона Альказару паказала, што ёсьць моцныя ідэйныя людзі пасярод гішпанскага народу.

Вялікія дзяржавы, заінтарасаваныя ў гішпанскіх падзеях і далей памагаюць двум змагаючымся старонам. Найбольш яўна памагаюць мадрыцкаму ўраду Саветы, яны высылаюць туды грошы, прадукты, амуніцыю і... аэрапляны. Кажуць, што пару сотняў савецкіх аэрапляпаў знаходзіцца ў Гішпаніі. Таксама яўна памагае Італія, іншыя дзяржавы, як Францыя, Англія, Нямеччына сваю помач тэй ці другой старане стараюцца скрыць.

### Ліга Народаў.

23 верасьня сабралося пленум Лігі Народаў і пры гэтай аказіі аджыла справа Абісыніі. Як ужо ведама, Італія заявіла, што яна не пашле ў Жэнэву сваіх дэлегатаў, калі на паседжаньне Лігі будуць дапушчаны дэлегаты Абісыніі. Вось-жа Ліга прызнала, што мандаты абісынскіх дэлегатаў у парадку і што яны могуць прымаць удзел у нарадах Лігі, ня гледзячы на тое, што Абісынія занята Італіяй... Гэта пастанова паглыбіла прорву паміж Лігай і Італіяй і яшчэ болей спутала міжнароднае палажэньне. Проціў Італіі на грунце Лігі выступілі Саветы, Францыя з саюзьніцамі і Англія. Гэтая апошняя пачулася загрожанай на Міжземным моры, кудою праходзяць яе марскія шляхі і пачала акружаць Італію, украпляючы выхады з Міжземнага мора, а ў Палестыне закладаючы магутную вайсковую базу. База гэтая патрэбна ёй ня так проціў арабаў, як проціў Італіі... У Палестыне цяпер болей як 30 тысяч найлепшага англійскага войска, узброенага паводле найнавейшай тэхнікі. Дзеля гэтага жыды могуць быць спакойны — іх арабы ня выганяць з Палестыны. Даўшы „незалежнасьць" Эгіпту і вывеўшы адтуль свае войскі, Англія ўзмацняе Палестыну, ляжачую па другі бок Суэскага каналу, і пры гэтым б'е няміласэрна арабаў, якія не перастаюць змагацца з англійскім імпэр'ялізмам.

Апроч справы Абісыніі на парадку дня Лігі Народаў пастаўлена справа рэформы самой Лігі, але як гэта справа пакуль што даволі няясная, аб ёй другім разам.

### Валютная рэвалюцыя.

У верасьні адбывалася ў некаторых дзяржавах сапраўдная валютная рэвалюцыя, ідучая да паніжэньня вартасьці валюты. Спробы з паніжэньнем сваей валюты рабілі дзяржавы і даўней, але такой агульнай тэндэнцыі да паніжэньня валюты яшчэ ня было. Запачаткавалі гэту „рэвалюцыю" Злучаныя Штаты П. Амэрыкі, якія пару гадоў таму абнізілі вартасьць даляра; за імі пайшла Англія, паніжаючы вартасьць фунта штэрлінгаў, а потым Францыя, а за імі бадай усе эўрапэйскія дзяржавы. Якія мэты мае гэта абніжка? Перадусім ажыўленьне эканамічнага жыцьця краю. Пры паніжэньні валюты людзі трацяць да яе давер і, хочучы яе пазбыцца, купляюць розныя патрэбныя, а часам і непатрэбныя рэчы, што выклікае большае запатрабаваньне на тавар, большую вытворчасьць, меншае беспрацоўе і г. д. Такім парадкам пры спадку валюты эканамічнае жыцьцё ў краі ажыўляецца. Але апроч ажыўленьня нутранога гандлю спадак валюты, або як кажуць дэвалюацыя, мае яшчэ значэньне і для заграчічнага гандлю. Справа ў тым, што пры абніжэньні валюты паніжаецца цана і на тавар і за заграцічную валюту можна купіць у дзяржаве, паніжыўшай сваю валюту, болей тавару чым у іншых і гэта заахвочвае заграцічных купцоў купляць тавар там, дзе найніжэйшая валюта. Апроч гэтых прычын есьць яшчэ і іншыя, якія прыводзяць да паніжэньня валюты, як напр. вялікая задоўжаннасьць дзяржавы перад уласнымі грамадзянамі праз г. зв. нутраныя пазычкі, — бо пры паніжэньні валюты скарб выплачвае менш, чым быў атрымаў і на паніжэньні валюты многа зарабляе. Абніжаецца валюта і тады, калі друкуецца шмат папяровых грошай, ня маючых пакрыцьця ў золаце, абніжаецца і тады, калі ёсьць дэфіцыт у дзяржаўным буджэце і г. д.

Якія былі прычыны цяперашняга абніжэньня валюты, згадаць трудна; але здаецца, што імкненьне дзяржаў да нейкай стабілізацыі валют на сусьветным рынку было цяпер галоўнай прычынай „валютнай рэвалюцыі" ў паасобных дзяржавах. Наскольні гэтыя абніжэньні вялікія, можа сьведчыць факт, што француская валюта (франк) паніжаны цяпер на 30 прац., а ў параўнаньні з прадваенным франкам будзе ніжэйшы на 85 працэнтаў! Злучаныя Штаты панізілі даляра на 45 прац., на стольні-ж Англія панізіла свой фунт штэрлінгаў; Бэльгія на 90 прац., Швэцыя і Нарвэгія — на 45 прац. і г. д. Польшч у 1925—7 была панізіўшы вартасьць злотага на 42 прац., а цяпер, паводле заяваў аўторытэтных дзейнікаў, паніжаць ня мае намеру, бо гаспадарчыя кругі выказаліся проціў паніжэньня цяперашняй вартасьці злотага. Урад заяўляе ад сябе, што ён ня бачыць прычын да зьмены валютнай палітыкі.

*БЕЛАРУСЫ, Мы павінны мець сваю сапраўды незалежную прэсу. Але каб яе мець, трэба больш ахвярнасьці і помачы ня з боку чужых сілаў, а з боку самых беларусаў.*

*Матэрыяльная залежнасьць робіць залежнай і прэсу, а залежная прэса ня можа незалежна асьвятляць ані беларускай народнай справы агулам, ані праяваў беларускага палітычнага і грамадзкага жыцьця ў асобнасьці.*

*„Беларускі Фронт" ёсьць газэтай цалком незалежнай ад усіх чужых сілаў—дык памажэце яму, каб ён мог выходзіць як можна часьцей.*

*Прысылайце ахвяры, складкі; выпісвайце газэту і пашырайце яе. Падавайце адрасы Вашых знаёмых.*

*Прысылайце так-жа весткі і інфармацыі з жыцьця Вашай старонкі.*

*Усё шлеце на адрас: Вільня, Вострабрамская 2 — 11. Рэдакцыя „Беларускага Фронту".*

## З Польшчы.

### Праект новай урадавай партыі.

Кругі, якія стаяць блізка сяньняшняга ўраду, маюць многа клопату са стварэньнем новай палітычнай партыі. Ужо некалькі месяцаў ідзе ідэолёгічная і арганізацыйная падгатоўка; над праграмай яе працуе цэлы штаб на чале з палк. Коцам, а партыі дагэтуль няма. Аднак трэба прызнаць, што падгатоўка да арганізаваньня партыі ідзе ўсей парай, арганізатары яе стараюцца назьбіраць столькі людзкога матар'ялу, каб адразу заімпанаваць усяму польскаму грамадзянству. Асаблівую ўвагу зьвернена на сялян (chłopów), ды праўду кажучы, ня так на сялян, як на сялянскіх павадыроў. І так — яшчэ 23. VIII. г. г. быў склікаиы ў Варшаве зьезд сялянскіх дзеячоў пад назовам „Kadra działaczy chłopskich", якіх нехта ахрысьціў вельмі ўдатным прозьвішчам „Kadzichłopy". Зьезд адбыўся пад павадырствам б. хлопскага дзеяча Валерона; зьезд абвесьціў даволі радыкальную праграму і прызнаў за свайго павадыра ген. Рыдз-Сьміглага, як сына вёскі. Наскольні некаторыя дзейнікі прыдаюць многа значэньня гэтаму зьезду, сьведчыць факт прыняцьця Валерона ген. Рыдз-Сьміглым на спэцыяльнай аўдыенцыі.

Потым быў скліканы зьезд дзеячоў б. „Стронніцтва Хлопскага", а на пачатку гэтага месяца — „Вызваленьня". Усе гэтыя групы маюць увайсьці ў новую проўрадавую партыю, якая мае называцца „Służba Narodowa".

### Выбары ў Лодзі.

27.IX. адбыліся выбары у Лодзкую гарадзкую раду. Змаганьне адбывалася паміж сацыялістамі і эндэкамі. Разам з сацыялістамі ішлі камуністы і часьць жыдоў. ППС атрымала 95 тыс. галасоў і 34 мандаты, эндэцыя — 79 тыс. галасоў і 27 мандатаў. Галасавала 72 прац.

Лодзкія выбары характэрны для зразуменьня настрояў у Польшчы. У гэтых выбарах санацыйная ліста не атрымала аніводнага мандату, так што пэпээсаўская і эндэцкая прэса піша аб зьліквідаваньні санацыі на лодзкім грунце. Галасаваньне адбылося спакойна; праўда, што ў той дзень было сконцэнтравана ў Лодзі, калі верыць газэтам, каля 7 тысяч чалавек паліцыі. Арыштаваных было каля 150 асоб.

У ліку 34, прайшоўшых па лісьце ППС, „чыстых" пэпээсаўцаў толькі 27 чалавек, рэшта: 2 камуністы, 4 жыды і 1 немец.

**Рэдакцыйная калегія:**

*інж. Л. Дубейкаўскі,*
*мгр. В. Гадлеўскі,*
*мгр. М. Шкелёнак,*
*студ. В. Папуцэвіч.*



*Наступны нумар „БЕЛАРУСКАГА ФРОНТУ" выйдзе 5-га лістапада.*

Рэдактар-Выдавец: В. ПАПУЦЭВІЧ.

Друк. Я. Левіна Вільня, Нямецкая вул. 22. Тэл. 21-14.